Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 69 (120). Вільня, Субота 24 Верасьня 1927 г. Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Перамога нацыянальнай ідэалёгіі.

Дзень 19-га верасьня с. г. у беларускім адраджэнскім руху можа быць уважаны за дзень, у якім выявілася перамога нацыянальнай ідэалёгіі, бо ў гэты дзень пасол Юры Сабалеўскі пакінуў партыю „Беларускую Работніцка-Сялянскую Грамаду" і ўступіў у Беларускі Пасольскі Клюб. Апрача таго, паслы Шапель і Шакун, якія былі перш у „Вызваленьні", пасьля ў „Незалежнай Партыі Хлопскай" (саюзьніца „Грамады"), далей утварылі „Радыкальную Сялянскую Партыю Беларускіх Зямель", цяпер пераканаліся, што толькі Беларускі Пасольскі Клюб зьяўляецца запраўдным змагаром за лепшую долю Беларускага Народу і затым таксама пакінулі гэтую партыю і падалі заяву аб прыняцьці іх у сябры Беларускага Пасольскага Клюбу.

Гэтыя два факты ў гісторыі беларускага адраджэнскага руху могуць быць уважаны за важныя падзеі, якія сьведчаць аб перамозе нацыянальнай ідэалёгіі.

Усе тыя, якія, дзякуючы тым ці іншым прычынам, ня былі на запраўдным адраджэнскім шляху пераканаліся, што толькі шляях Беларускага Пасольскага Клюбу зьяўляецца шляхам адраджэньня Буларускага народу.

І запраўды, праз увесь час істнаваньня клюбу, як цэласьці, яго праца ішла праўдзівай дарогаю. Беларускія паслы ў Сойме цьвёрда стаялі на нацыянальным грунце і адначасна імкнуліся да правядзеньня ў жыцьцё, якнайдалей ідучых рэформаў сацыяльных, у духу працоўных гушчаў.

Хто толькі чытаў прамовы нашых змагароў у Сойме, той пракнаўся, што толькі шчырыя сыны беларускага сялянства і адважныя барацьбіты могуць з трыбуны соймавай так востра выступаць проці рожных праектаў і законаў, выдаваных на некарысьць працоўных масаў.

Нашыя паслы ў Сойме мусілі вясьці дваякае змаганьне: змаганьне з праектамі законаў некарысных для Беларускага Народу і змаганьне за правядзеньне рожных рэформаў на карысьць беларускага сялянства і работніцкае клясы. Гэтае змаганьне было так цяжкое, што нельга сабе прыдумаць цяжэйшага, бо ўсе польскія партыі, а на'т і камуністычная польская партыя ў Сойме, варожа адносяцца да беларускага нацыянальна-сацыяльнага руху. Усе польскія партыі, ад правых да левых, падтрымліваюць асадніцтва на беларускіх землях, падтрымліваюць палітыку паланізацыі нашых земель, падтрымліваюць і прыкрываюць усялякія несправядлівасьці і зьдзекі над беларускім рухам з боку адміністрацыі, што Беларусы зьяўляюцца грамадзянамі трэцярадными, г. зн. няпоўнапраўнымі.

Беларускі Пасольскі Клюб ужо даўно зразумеў гэтыя варожыя адносіны польскіх партыяў да нас і затым пайшоў асобнай сваей дарогай у працы Сойму, будучы ў апазыцыі да ўраду і да ўрадавых праектаў законаў.

На першы пагляд можа здавацца, што такая тактыка клюбу ня прыносе нічога рэальнага для беларускага сялянства, якое чакае зямлі, зьмяншэньня падаткаў і інш., аднак практыка выказала, што якраз, выбраны Беларускім Пасольскім Клюбам, шлях зьяўляецца найлепшым у тых абставінах, у якіх Заходняя Беларусь апынулася пасьля рыскага трактату. Трэба ведаць, што нідзе, у ніводнай з частак падзелянай Беларусі, так шыбка не разьвіваецца беларускі адраджэнскі рух, як у Заходняй Беларусі, дзе Беларуская сьведамасьць сярод масаў сялянства пашырана больш чымся ў Савецкай Беларусі.

Гэта можна тлумачыць толькі абставінамі нашага гаротнага жыцьця і якраз працай, энэргіяй і адвагай Беларускага Пасольскага Клюбу. Наша бацькаўшчына Беларусь павінна быць удзячна першаму Беларускаму Пасольскаму Клюбу, які ў сваей цэласьці споўніў сумленна свой абавязак перад Беларускім Народам.

Шчырая, ідэйная і адважная праца Клюбу і яго тактыка перамагла рожныя хваробы на маладым беларускім целе. Павялічэньне ліку сяброў Клюбу, якое цяпер наступіла, сьведчыць аб здаровасьці і праўдзівасьці выбранага клюбам шляху ў барацьбе за зьдзейсьненьне нацыянальных і сацыяльных ідэалаў Беларускага Народу, пераважна сярмяжнага сялянства. У пабольшаным цяпер складзе, Клюб павінен яшчэ з большай энэргіяй і большымі рэзультатамі вясьці далей працу пад высока трыманым бел-чырвона-белым сьцягам. Гэты сьцяг ужо пачаў перамагаць у барацьбе з нашымі ворагамі, а гэта павінна быць доказам, што ён будзе і далей перамагаць у барацьбе з тымі, якія бяруцца за беларускія справы ў чужых рукавіцах.

Наш сьцяг ёсьць сьцягам народным, а хто ідзе з народам, той пераможа ўсіх.

Дык няхай жыве наш сьцяг, наша нацыянальная перамога, наша сацыяльнае вызваленьне!

А. Незалежнік.

## Адлажэньне сэсіі Сойму.

Паседжаньне Сойму дня 20-га верасьня распачалася а гадз. 3.15 м. па паўдні. На ўрадавых лавах заселі Віцэ-Старшыня Рады Міністраў Бартэль, міністар ўнутранных спраў Складкоўскі, Міністар Рэформ Рольных Станевіч, і Мін. пошты і тэлеграфу Медзінскі.

Адчыняючы паседжаньне марш. Ратай паведаміў, што пасол Попель адказаўся ад пасольскаго мандату, і што суд жадае выдачы пасла Дабію.

Перад парадкам дня зажадаў голасу віцэстаршыня Рады міністраў Бартэль, які адчытаў распараджэньня п. Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай гэткага зьместу:

„На аснове арт. 25 Канстытуцыі адкладываю ад дня 20 верасьня 1927 г. надзвычайную сэсію Сойму на 30 дзён. Варшава, 20 верасьня 1927 г. Прэзыдэнт Рэчыпаспалітай (—) І. Масьціцкі. Старшыня Рады міністраў (—) Я. Пілсудзкі.

Па адчытаньні гэтага распараджэньня на пасольскіх лавах запанавала агульная констэрнацыя.

Прынімаючы пад увагу распараджэньне п. Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай, Маршалак Ратай а гадз. 15, м. 19 зачыніў паседжаньне Сойму; такім чынам паседжаньне трывала усяго чатыры мінуты.

Паслы ні спадзеваліся гэткага кроку Ураду і ня ведалі што пачаць.

З пачатку на салі панавала цішына, пасьля пачалі разлягацца антыўрадавыя крыкі. Праз нейкі час некалькі клюбаў зрабілі нарады. Клюб Zw. Lud. Nar. вынес рэзалюцыю, якой сцьвердзіў, што адкладаньня сэсіі надзвычайнай ні згаджаецца з духам канстытуцыі і дзеля гэтага будзе змушаны завастрыць сваю апазыцыю да Ураду. P. S. L. Piast і N. P. R. таксама прыхінуліся да гэтай тактыкі.

## Адлажэньне сэсіі Сэнату.

Яшчэ перад адчыненчнем скліка765 на 22-га верасьня сэсіі Сэнату наступіла яе адлажэньне. Дня 21-га быў склікаваны конвэнт сэн'ёраў Сэнату. У часе паседжаньня канвэнту у будынак Сэнату прыбыў асабісты сэкрэтар міністра Бартля і даручыў сэкрэтару маршалка Сэнату ліст аб адлажэньні сэсіі Сэнату.

Ліст гэты наступнага зьместу:

„Да п. Маршалка Сэнату. На аснове арт. 37 канстытуцыі адкладаю надзвывайную сэсію Сэнату на 30 дзён. Варшава, дня 20 верасьня 1927 г. (—) Прэзыдэнт Рэчыпаспелітай І. Масьціцкі; Старшыня Рады Міністраў (—) Я. Пілсудскі".

Гэтае распараджэньне, выклікала зьдзіўленьне ў сэнатараў. У сувязі з гэтым канвэнт сэн'ёраў Сэнату аднагалосна ўпаўнамочыў маршалка Сэнату да зложэньня Прэзыдэнту адпаведнага выясьненьня. Маршалак Сэнату вечарам 21-га верасьня апрацаваў тэкст адпаведнага пісьма і выслаў яго Прэзыдэнту.

# Заява паслоў Шапеля і Шакуна.

Паслы Ул. Шакун і А. Шапель перад спыненьнем соймавай сэсіі падалі ў Беларускі Пасольскі Клюб заяву наступнага зьместу:

У Беларускі Пасольскі Клюб.

Заява.

Будучы выбранымі ў 1922 годзе ў Польскі Сойм галасамі беларускага сялянства са сьпіску польскае партыі „Вызваленьне", спадзяваліся мы найсьці там шчырыя адносіны да беларускага руху і абароны правоў нашага беларускага сялянства. Але пасьля 2 гадоў, пераканаўшыся, што ў „Вызваленьні" няма шчырае абароны правоў, ды інтарэсаў Беларускага Народу,— мусілі выступіць з гэнае партыі.

Далей увайшлі мы ў новаарганізаваную „Незалежную Партыю Хлопскую", думаючы, што пад яе сьцягам можна будзе вясьці барацьбу за правы і інтарэсы беларускага сялянства. Аднак пераканаліся мы, што тактыка і кірунак працы, распачатай павадырамі партыі Н. П. Х., былі шкоднымі для беларускага сялянства; спаткаліся мы там з агіднай правакацыяй, якая загняздзілася сярод партыі.

Бачачы, што нам, Беларусам, няма месца ў радох Н. П. Х., пакінулі мы гэную партыю і ўтварылі „Радыкальную Сялянскую Партыю Беларускіх Зямель".

Дык вось, прышлі мы да перакананьня, што ў сучасны цяжкі для Беларускага Народу момант, ёсьць канечным не разьбіцё, не падзел на дробныя партыі, а аб'яднаньне ўсіх шчырай думкі беларускіх народных сіл і дзеля гэтага мы, як сыны Беларускага Народу, пастанавілі ўступіць у Беларускі Пасольскі Клюб, які праз увесь час стойка бараніў правоў Беларускага Народу і высака трымаў Беларускі сьцяг у Сойме, ня гледзячы на тое, што яго праца ішла і ідзе ў нязвычайна цяжкіх абставінах, ня гледзячы на тое, што некаторых сяброў яго спаткаў цяжкі лёс за кратамі турмаў польскіх.

*Уладзімер Шакун*
*А. Шапель*
Паслы Сойму.

20.IX. 1927 г.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры
абвяшчае

## КОНКУРС
## на прыгожы значок Інстытуту.

Значок павінен выражаць мэты Інстытуту і між іншымі адзнакамі і павінен заключаць колас пшаніцы з дубоваю галінкаю. Вялічыня значка павінна быць ад $1^1/_2$ да 2 кв. цэнтымэтраў.

За прынятыя найлепшыя значкі Інстытут устанавіў 2 нагроды ў суме: 50 злотых і 30 зл.

Праекты значкоў (рысункі) можна прысылаць да 1-га лістапада с. г. на адрэс: Вільня, Завальная 6—5 Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.

# З жыцьця Польшчы.

### Сьледзтва ў справе забойства Трайковіча.

У сувязі з забойствам у савецкім пасольстве ў Варшаве Трайковіча, сьледавацель Вітунскі выслухаў, як сьведкаў працаўнікоў пасольства Гусева і Шлецэра. Савецкае пасольства ў Варшаве паведаміла Міністэрства Зам. Спраў, што хоць яно ўважае прынцыпова што працаўнік чужога пасольства не падпадае кампэтэнцыі польскіх судоў, аднак у гэтым выпадку ня толькі згадзілася на сьледзтва, але з свайго боку зьвярнулася ў Міністэрства Загр. Спраў, хочачы гэтым даць даказ, што ўраду С. С. Р. Р. залежыць на поўным выясьненьні справы.

### Страшная катастрофа ў Торуню

Торунь 21. 9. П. А.Т. Ўчора ў палудні на прадмесьці Торуня з вышыні 400 мэтраў бразнуў на зямлю самалёт, якім кіраваў паручнік Зыгмунд Духоўскі. Самалёт зусім разьбіўся, а пар. Духойскі забійся на сьмерць.

### Новы пасол савецкі ў Варшаве·

У хуткім часе мае прыехаць у Варшаву новы пасол савецкі гр. Богамолаў, якого прыняць польскі Ўрад ужо згадзіўся.

Гр. Богамолаў зьяўляецца прафэсыянальным савецкім дыплёматам. Дагэтуль ён працаваў: перш у камісар'яце заграцічных спраў, пасьля быў сэкрэтаром савецкага пасольства ў Вене, апошні час быў сэкрэтаром пасольства савецкага ў Англіі.

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Вынікі выбараў у Ірляндзіі.

Дублін 20.IX. У выбарах да Парлямэнту вольнай Ірляндзіі, ўрадовыя групы дагэтуль атрымалі 75 мандатаў, а групы апазыцыйныя 71. Хоць яшчэ нівядома якія вынікі галасаваньня дадуць шэсьць апошніх мандатаў, аднак-жа з вышэйшага можна мяркаваць, што групы урадавыя ня будуць мець вялікай большасьці.

### Францыя ставіць Саветам рашучыя варункі.

Парыж 21.IX. П.А.Т. Як піша „La Matin" амбасадар францускі ў Маскве — Гэрбэнтэ паведаміў Чычэрына, што Францыя можа пачаць з Саветамі перагаворы ў справе пакту аб ненападаньні пад варункам, што перад гэтым Саветы адзавуць свайго амбасадара Ракоўскага; што ўрад ні нарушыць дагавору ад дня 20.X. 1924 г. і ня будзе ўмешвацца ў унутраныя справы і ўрэшце, што выступіць з аканчальнымі прапазыцыямі ў справе ўрэгуляваньня расейскіх даўгоў.

### Новы выбух пякельнай машыны ў Сэрбіі.

Белгорад 21.IX. П.А.Т. Не далёка ад Klissure на лініі Guveguel — Skople сёньня, а гадз. 1 мін. 45 у начы, падчас праходу кур'ерскага цягніка ўзарвалася пякельная машына. Паравоз зваліўся з насыпу, аднак машыністу ўдалося цягнік затрымаць, так што ахвяр у людзёх ня было і матэр'яльныя страты невялікія.

Гэты замах прыпісваюць Македонскаму рэвалюцыйнаму Камітэту.

### Грэцыя пад знакам замахаў.

Будапэшт 21.IX. П.А.Т. Як даносяць газэты з Атэн — сёньня рада Міністраў на надзвычайным паседжаньні абгаварывала справу новага замаху на цяперашні ўрад.

Замаху хацелі дакanaць староннікі Пангалёса, аднак паліцыя ў час перашкодзіла.

### У камісіі разаружэньня.

Жэнэва 21.IX. П.А.Т. Камісія Лігі Народаў у справе разаружаньня прыняла сёньня вечарам разалюцыю, якая абнімае і ўзгадняе прапазыкі Паўль Бонксура, гр. Бэрысторфа і Лёўдона. Рэзалюцыя гэта жадае вядзеньня далей падгатаваўчай працы Камітэту міжнароднай Конфэрэнцыі ў справе разаружэньня.

### Тэлеграма Вільгэльма II-га да Гіндэнбурга.

Як даносяц бэрлінскія газэты, быўшы імпэратар Вільгэльм II-гі, у дзень пасьвячэньня памятніка Таннэнбэрскага, надаслаў да прэзыдэнта Гіндэнбурга тэлеграму, у якой піша, што духам ён ёсьць з тымі, якія прычыніліся да вялікай перамогі пад Таннэнбэргам. Быўшы імпэратар падкрэсьліў, што бой пад Таннэнбэргам, якім кіравалі марш. Гіндэнбург і ген. Людэндорф, пакаваў усяму сьвету да чаго ёсьць здольна сіла нямецкая, якой камандуе сьвядомае мэты кіраўніцтва. На заканчэньне тэлеграмы б. імпэратар піша: „Няхай дух Таннэнбэрскіх багатыроў пранікне і пагодзіць наш разарваны нязгодаю народ. Тады узноў даканае ён цудаў і ня будзе дарэмнай сьмерць тых, якім сёньня пасьвячае памятнік. Тады з Божай дапамогаю ўзноў паднімемся:

Як падаюць газэты, прэзыдэнт Гіндэнбург адказаў на гэтую тэлеграму прыватным пісьмом, зьмест якога не агалошана.

### Замах на склады ваенных прыладаў у Коўні.

У суботу дня 17 г. м. на склады аружжа, якія знаходзяцца на прадмесьці Шанцы, быў дакананы замах. Як ходзяць чуткі, замахоўцы хацелі ўзарваць гэтыя склады, аднак-жа ім гэта ня ўдалося.

Пасьля страляніны між патролямі і замахоўцамі, некалькі замахоўцаў арыштавана.

Адначасна абвешчаны ў Коўні сьпісак 14 жыхароў места, высланых у канцэтрацыйны абоз у Ворнях. Апрача гэтага выслалі з Коўны вучыцеля гімнастыкі польскай гімназіі Лютыка і студэнта Крыгера. У Паневежу арыштаваны вядомы дзеяч літоўскі д-р Дамашэвіч.

### Перасьледаваньне Масонаў у Італіі.

Італьянскі фашыстоўскі ўрад пачаў перасьледаваць масонаў. У Лівэрне арыштавана 6 галоўных кіраўнікоў масонскіх лёжаў. Пры рэ-

КЯУБ КОЛАС. 3)

## Сымон Музыка.

Поэма.

(Працяг).

І хлапчынка ня стрымаўся:
— Не, дзед, будзеш рагатаць...
Я даўно, дзядок, зьбіраўся
Дзеду нештачка сказаць,
Ды ніяк не прыбяруся,
Не асьмелюся ніяк —
Сьмеху дзедава баюся!
— Эх, Сымон! ото дзівак!
Праўда: молада-зялёна!...
Ах, каб ты здаровы рос! —
Да сябе ўзяў дзед Сымона,
За плячук яго патрос.
— Ну расказвай! кажы сьмела,
Мой музыка малады:
Што ў цябе там зноў насьпела?
Можа песьня для дуды?
— Вось што ўперад я спытаю:
Дзед! ці чуе зямля боль,
Як па ёй саха крывая
Робіць баразны і роль?
Як зямельку конік топча,
Ці баліць ёй? ці чутно?
— Мудра ты пытаеш хлопча, —
Проста слухаць мне дзіўно!
Не, ня чуе, бо ня жыва:
Хіба можа чуць пясок?
Заўсягды зямля маўкліва:
Як ні бі яе — маўчок! —
Змоўк Сымонка і прыгнуўся,
Цень задумы на ім лёг;
Ён у думках зноў замкнуўся
Ды скуб траўку каля ног.
— Не, дзядок: а мне здаецца,
Што яна такі жыва,
Бо адкуль усё бярэцца;
Краскі, дзерава, трава?
Ўсё з зямелькі дзедка мілы!
Хто-ж іх корміць, дарагі?
Хто дае ім моцы, сілы?
Як, з чаго растуць лугі?
І чаго зямля так сумна
Познай восеню, зімой?
І чаму прыветна, шумна
І так весела вясной?
Бо яна, відаць, штось знае,
Бо яна жыве дзядок.
Ўсё жыве і душу мае:
Краска, дрэва і жучок...
— Хто-ж яго, Сымонка знае,
І ня нам судзіць аб тым:
Гэта справа патайная,
Ня мне розумам дурным
Гэты белы сьвет тлумачыць,
Бо хто-ж я? сьляпы мужык!
Мо' твой розум далей бачыць,
Мо' ты ў праўду глыбей ўнік,
А стары ўжо, бач, дурнее,
Як за семдзесят залез.
— Ты зірні, дзед, унь чарнее, —
Паказаў хлапчук на лес, —
Пара хвоек так прыгожа, —
Ты прыглядзься добра к ім...
Ці ня праўда, як ня схожа
Адно дзерава з другім?
Тая хвоя, што пры полі,
Бач, стаіць, як важны пан,
Разгарнуўшы на прывольлі
Свае лапы, бы каптан;
А другая небарака,
Пахілілася наніз,
Стан пагнуўся, як кульбака,
І верх жудасна абвіс.
А чаму? У іх дзьве долі —
Лёс няроўнага жыцьця...
— Ну, Сымон: ня чуў ніколі,
Каб тваіх гадкоў дзіця
Ды так мудра разважала,
Толькі ведаеш, браток:
Мне здаецца ўсё, што мала
Пажывеш ты, галубок,
Бо ня любяць сьвет і людзі,
Каб іх тайнасьці пазнаць
Каб заглянуць у іх грудзі
І зьняць тайнасьці пячаць...
Ну, а што-ж ты мне, старому,
Думаў, хлопчыку, сказаць?
— Тое дзедку, што нікому, —
Табе толькі можна знаць.
— Дзякуй, хлопча за ўвагу,
Надта рады, мой каток?
Сядзь бліжэй, а я прылягу,
Бо штось ные трохі бок...
Эхэ-хэ, брат! адсьпявана
Мая песьня, дый пара —
Ўсё нутро ўжо папсавана,
Чуць трымаецца кара. —
Застагнаў дзед, кладучыся,
Лёг, шчаку рукой падпёр.
— Сьмерць падходзіць, крадучыся,
Як да стада воўк з-за гор...
Ты, Сымон, баішся сьмерці?
— Не!.. сапраўды гавару:
Я-б хацеў скарэй памерці: —
Дзед памрэш і я памру.
— Жыць табе, мой хлопча, трэба:
Ты малы яшчэ, дзіця;
Расквітнее твая глеба,
Прыйдзе час твайго жыцьця...
Уміраць хоча! старэчы!...
Сьмейся з гэтай гаманы!.. —
Ды ў той момант дзесь далеча
Ціха бомкнулі званы,
І між імі звон пабіты.
Той надтрэснуты, стары;
Зыкі смуткам апавіты,
Млеюць жаласна ў бары,
— Вось цікава: аб тым звоне
Я й хацеў апавядаць.
— Ну кажы, кажы, Сымоне,
Бо цікава гэта знаць.

ПЕСЬНЯ АБ ЗВАНОХ.

Гудам-звонам срэбна-медным
Звоняць звоны на званіцы.
Звоняць звоны ў час дзяньніцы,
Надвячэр'ем ясна-бледным,
Звоняць звоны галасныя.
Іх віталі сонца косы,
Агнявыя пасмы-стрэлы;
Нёсься звон іх у сьвет белы,
Плыў іх гоман пад нябёсы
У пустэлі патайныя.
Срэбралітаю расою
Іх віталі краскі, травы,
Промень ясны і ласкавы
У тэй росцы зьяў красою
І вясёлкам ткаў кароны.
Так званілі тыя звоны.
Між званамі на званіцы
Быў адзін звон нязвычайны,
Меў ён голас рознастайны,
Чараў дзіўныя крыніцы
І размовы нейкай тайны.
І быў сэрцам ён чульлівы.
Срэбраструнны, златагукі,
Успрыймаў ён радасьць, мукі,
То маркотны, то шчасьлівы,
Як пакажа час разлукі,
Як павене міг спатканьня.
І ніколі не маўчалі
Струны-гуды звона тога:
Неба шыр, зямлі разлога,
Залатыя сонца далі
На яго адбітак клалі
Чары дзіўнага сьпяваньня.
Аклікаўся ён і громам
Неба плыні віхрабежнай,

візіі знойдзена шмат тайных дакумантаў, акія сьведчаць аб шырокай дзейнасьці масонскай арганізацыі ў Італіі.

### Землетрасеньне ў Крыме трывае далей.

У начы 17 верасьня ад землетрасеньня ў м. Алупка разбурана 150 дамоў. Між Севастопалям і Лукулай заўважана слуп дыму. Гэта— падземныя газы, што выйшлі на верх праз шчэліну ў зямлі, каторая ўзьнікла ад землетрасеньня.

### Савецкі пасол Ракоўскі—шпіёнам.

Газэта „Kurjer Wileński" піша, што „Liberte" абвяшчае сэнсацыйны дакумант, што цяперашні савецкі пасол у Парыжы Ракоўскі, падчас рэвалюцыі быў на шпікаўскай службе ў Нямеччыне. Дакуманты, апублікаваныя ў „Liberte" ўзяты з архіваў Злучаных Штатаў Амэрыкі.

### Працэс 5-ці манархістых у Ленінградзе.

У працэсе проці пяці манархістых, абвінавачаных у шпіёнстве і падгатоўцы тэрорных выступленьняў. Абвінавачаныя прызналіся да віны. У падрабязнасьці прызналіся, што ўтрымлівалі сталы кантакт з заграпічнай дэфэнзываю і дастаўлялі ей патрэбныя інфармацыі. Допросы абвінавачаных вядуцца далей.

### Супольная праца штабаў Бэльгіі і Францыі.

Бэрлінскія газэты „Taegliche Rundschau" і „Germania" ў вестках з Парыжа пішуць, што між бэльгійскім і францускім ваеннымі штабамі дайшло да паразуменьня ў справе выдаваньня аднолькавых распараджэньняў вайсковых на граніцы француска-бэльгійска-нямецкай,

### Злучэньне ўрадаў у Ганкоў і Нанкіне.

Як даносіць агенства Рэйтэра, канфэрэнцыя паміж прадстаўнікамі 2-х урадаў палудневага Кітаю—закончылася злучэньнем ганкоўскага і нанскінскага ўрадаў. Аб паўстаньні супольнага ўраду вестак яшчэ няма.

### Змаганьне з гандлем кабетамі.

На паседжаньні прадстаўнікоў Лігі Народаў зацьверджана справаздача аб змаганьні з гандлем опіюмам і іншымі наркотынамі; пасьля гэтага распачалася дыскусія над справаздачай аб змаганьні з гандлем кабетамі.

Пасьля дыскусіі аднагалосна пастаноўлена выдаць якнайвастрэйшыя распараджэньні проці сутэнэраў, апрача гэтага—пастанавілі прасіць камітэт апекі над кабетамі і дзяцьмі аб высьненьні магчымасьці закрыцьця публічных дамоў. У далейшым цягу паседжаньня разглядаліся наступныя справы: апекі над дзяцьмі, дзейнасьці службы здароўя Лігі Народаў, а так-жа прынята (хоць з пэўнай засьцярогай) прапазыка італьянскага ўраду ў справе стварэньня міжнароднага інстытуту пэдагагічнага фільму.

**Дык кожны, хто ўмее чытаць, спяшайяс выпісаць сваю газэту „Сялянскую Ніву".**

# НАВІНЫ.

**Паседжаньне ў Інстытуце.** У аўторак 27 верасьня, а 6 гадзіне ў вечары ў памешканьні Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры адбудзецца паседжаньне ў справе прыняцьця, апрацаванага Цэнтральным Урадам Інстытуту, статуту Земляробска-Прамысловага Банку.

**Лекцыі ў Гуртках Інстытуту.** Апрача лекцыяў у Парослях і ў Рушчанах, Бельскага пав.. інструктарам Б. І. Г. і К. прачытаны лекцыі ў Нарэўцы Бельскага пав., Дабучыні і Бакунах Пружанскага пав.

Як да нас пішуць, зьбіралася многа слухачоў, якія часта ня гледзячы на рожніцу палітычных перакананьняў, — выяўлялі вялікае зацікаўленьне і ахвоту да супольнай працы, як над пашырэньнем духовай культуры, так і над падняцьцем гаспадаркі на належную вышыню.

Праявы гэтай ахвоты сярод нашага сялянства вельмі нас цешыць, бо і запраўды ўжо найвялікшая пара страхануць, з сябе гэту пасыўнасьць да ўсяго таго, што можа і павінна нас унезалежніць, як з пункту гледжаньня эканамічнага, так і духовай культуры.

Ўжо даўно пара і нашаму селяніну шырэй глянуць на сьвет, пара ўзяцца, ды ўзяцца шчыра і рашуча за працу над палепшаньнем свайго-ж жыцьця. Няхай нам служуць прыкладам земляробы Італіі, Англіі, Даніі, Нямеччыны і іншых народаў, якія ўжо, можна сказаць, адбараніліся ад цемнаты праз школы, як агульна ўзгадаваўчыя, так і спэцыяльныя, а гэтак сама ад галіты і беднаты — праз шчырую супольную працу, праз коопэрацыю.

Не гаворучы ўжо далёка, зьвернем сваю ўвагу на Чэхаў, якія не так даўно былі шмат бяднейшымі ад нас, а цяпер — як-жа нас аперадзілі..., а што-ж больш, як не запраўдная ахвота працаваць над сабой, над сваей гаспадаркай, ўрэшце, — ахвота да працы грамадзкай — ратавала іх прынамсі ад вечнай нядолі, калі не аканчальнага ўпадку.

Няхай-жа сярод нашага сялянства — расьце гэтая ахвота да культурна гаспадарчай працы; кожны селянін павінен добра памятаць што ніхто нам ні паможа, калі мы самі ня будзем старацца выбіцца на лепшую жыцьцёвую дарогу.

**Сваяўство.** Паміж супрацоўнікамі польскай газэты „Kurjer Wileński" а Луцкевічам і Янучком Станкеўчыкам істнуе нейкае патаемнае сваяўство. Дзеля гэтага сваяўства „Kur. Wil," вельмі прыхільна здвёсься да спадарова-Луцкевічаскай авантуры, называючы яе ідэёвай акцыяй. Пасьля выхаду аднадневўкі „Народ" „Kur. Wil." напісаў спадару пахвальны ліст. Праз нейкі час „Kur. Wil." пабачыў, што спадар апрача авантуры ды „мардабойства і капаньня нагамі" нічога людзкага не зрабіў і затым у двух нумарах наступных скрытыкаваў спадара. Непадабалася гэта Луцкевічу і затым закулісная дарогай і праз „Нашу Праўду" Луцкевіч зрабіў выгавар супрацоўнікам „Kur. Wil.", якія, ўдзіўны спосаб, пакумаваліся з Луцкевічам. Пасьля гэтага выгавару „Kur. Wil." пачаў ізноў біць адбой, пішучы ў апошнім сваім нумары ізноў пахвалу спадару Станкеўчыку з прычыны Луцкевічэўскага зьезду, які адбыўся 18-га верасьня.

Такім чынам „Наша Праўда" і „Kurjer Wilenski"аднолькава хваляць спадара за яго авантуру. Трэба ведаць, што„Kur. Wil." стаіць блізка да цяперашняга польскага ўраду, а „Наша Праўда" быццам зьяўляецца яго ворагам. Але незалежна ад іх вонкавых абліччаў між імі істнуе патаёмнае сваяўство аб якім трэба было-б ведаць прахільнікам „Наша-Праўдаўскага" кірунку.

**Да Луцкевічаўскага зьезду.** У папярэднім нумары „Сял. Нівы" мы падалі вестку аб Луцкевічаўскім зьездзе пад фірмай „Беларуская Сялянская партыя". Цяпер хочам дабавіць толькі тое, што Луцкевіч у сваей „Нашай Праўдзе", ў № 49 пацьвярджае, намі падаяую вестку, называючы паўтара дзесятка сваіх асабістых прыхільнікаў „ідэйнымі сябрамі Сялянскага Саюзу", за якіх між іншым займае і гр. Бэкіша. якога на зьездзе выбралі ў заступнікі сябраў камітэту, а які ў гутарцы за нашым сябрам заявіў, што ён адказаўся ад такога вялікага чыну ў Луцкевічаскай партыі, і дзівіцца чаму гэта спадар і Луцкевіч падаюць яго прозвішча, як заступніка сябра камітэту партыі·

**Ілжы няма граніц.** „Наша Праўда" закідала нам палянафільства., а як пачаліся канфіскаты „Сял. Нівы", судавыя працэсы проці рэдактараў „С. Н.", тады „Наша Праўда" злосна закідала нам „літоўскі фашызм", а цяпер у №. 49 зусім згубіла ўсякі грунт для закідаў, бо ўжо піша, што мы „востра крытыкуем галаву літоўскага фашыстоўскага ўраду Вальдэмараса". Гэта сьведчыць толькі аб адным, што папярэднія закіды былі ілжывымі даносамі. Цяпер-жа „Наша Праўда ў сувязі з такім станам рэчаў закідае нам паляніфільства. Што гэты закід вельмі стары і збанкрутаваны, пацьвяржаюць факты канфіскат „Сялян. Нівы" і артыкулы ў „Сял. Ніве", якія ў весь час крытыкуюць польскія ўрады. Гэта ўсім відавочна, і затым відавочныя і ілжывыя даносы „Нашай Праўды". Папера церпіць, але трэба дзівіцца цярплівасьці чытачоў „Нашай Праўды", якія дазваляюць Луцкевічу паганіць газэту прызначаную для работніцкае клясы. Аднак і сярод чытачоў пачынаець узьнікаць незадаваленьне і затым прыхільнікі „Наш. Праўды" пачынаюць выракацца яе. Аб гэтым сьведчыць тое, што кожны месяц у „Нашай Праўдзе" зьмяншаецца лік падпісчыкаў. Так напрыклад, з 8 тысячаў падпісчыкаў ужо асталося толькі 5 тысяч. Калі Луцкевіч будзе далей так паганіць „Нашую Праўду", дык і гэтыя падпісчыкі ўцякуць. Астанецца толькі Луцкевіч і спадар Янка Станкеўчык. Добрая кумпанія!

---

Буры чорнай і мяцежнай
І сьлядком над божым домам
Ад хмурынкі беласьнежнай.
Ён зьліваўся ў тон суладны
З шумам лісьцяў і травінак
З сьпевам красак і былінак,
На ўсё чулы і ўспагадны
І прыемны бы ўспамінак.
А ў час ночы глуха-немы,
Калі месяц блеск свой кіне
У твар ночкавай пустыні,
І пад вэльмам ціхай дрэмы
Зоры высыплюць, бы іней,
Ажываў ён, і чароўна
Гралі струны яго самі,
І іх сьпевам-галасамі
Месяц цешыўся бязмоўна
З хорам зор і небясамі.
А калі званар, бывала,
Залатыя ўзбудзіць струны,
Тады хмарка свае руны
Ніжэй к долу апускала,
Каб сьпявалі ў іх пяручы.
Ды маўчаў простор бяздонны, —
Навакола ўсё нямела,
Бура ўзьняцца там ня смела,
Бо мінута песень звонных
Дабратою сэрцы грэла.
Так званіў ён, так ён клікаў,
Каб пазнаць дабра адзіна,
Каб айцец ня крыўдзіў сына...
Ды для гэтых яго зыкаў
Ня прышла, дзядок, часіна.
Кожны раз, як сьвет зьдзіўлёны
Слухаў сьпеў той з заміраньнем
Праразьлівым бразгатаньнем,
Сьпеў яго глушылі звоны
І сьціхалі з насьмяханьнем.
Ім зайздросна, дзедку, стала,
Што меў дар такі звон гэты,
І што сьвет, у цьму адзеты,
Тая песьня асьвятляла,
Як і сонца сьветліць кветы.
І заглушан быў званамі
Гэты звон, вяшчун прарочы;
Ня трывожыць ён больш ночы
І цьмы, залеглае над намі,
Каб узвысіць лёс сірочы.
У няроўным тым змаганьні
Надарваўся звон чульлівы.
Змоўклі песень пераліві.
Зноў пануе бразгатаньне,
Пустазвонаў клік фальшывы.
І смуткуе звон разьбіты
Аб тых песьнях рознастайных,
Што ў прасторах, у бяскрайных
Зоры слухалі сукрыта,
Каб пазнаць іх сэнс патайны.
Але голас праўды, згоды
Не замрэ ў душы ніколі:
Будзе клікаць ён да волі,
Будзе ў сэрцы жыць заўсёды,
Як той вобраз лепшай долі. —

IV

Нікла жыцьце ў шумным лесе,
Агаляўся твар зямлі,
І ляцелі ў паднябесьсі
З звонкім крыкам жураўлі.
Восень ткала ўжо красёнцы
Мяккай чырвані ў лістох,
Восень сьпеў вяла бясконцы,
З ветрам ходзячы ў кустох;
Восень прала кужаль тонкі —
Павуценьня белы лён;
Восень шэрыя заслонкі
Моўчкі клала на адхон.
Восень шла ў сырым тумане,
Восень клыгала ўгары,
Восень песьні пела з рана,
Восень ныла ў вечары;
Восень слала дзень свой хмурны
Па падатак у лясы,
Каб на долы, стол хаўтурны,
Там заслаў ён абрусы.
Ішоў зранку дзень пануры,
Ахінуўшыся ў імглу,
Вочы шэрыя прыжмурыць
І міргне вятру-арлу.
І падыме вецер сьпевы,
Захістаюцца лясы,
І даюць падатак дрэвы,
Лістам сьцелюць верасы.
Адзін верас і красуе,
Там чуваць яшчэ жыцьцё,
А той вецер ліст драсуе,
Разьмятае, бы сьмяцьцё.
Глухла поле, замірала,
Як-бы дух пранёсься злы,
І ў задуме пазірала
Даль з-пад шэрае імглы.
Так на дзетак глядзіць матка,
Як разходзяцца яны
Па ўсім сьвеце з роднай хаткі
На мяжы свае вясны.
Нейкім жалем павявала
Ад аголеных палёў,
Ад шнуроў тых, дзе бывала
Нёсься шолах каласоў.
Там цяпер ральля чарнела,
Глызы ўскопанай зямлі,
І пакошу сеткай белай
Павуцінкі запялялі.
Пад агульны смутак гэты
Граў Сымон цяпер адзін,
Граў праштаньне жыцьцё лета,
Сьпеву-радасьці далін;
Граў разлуку з дзедкам мілы: —
Дзед ня ўздужаў далей жыць—
Пад крыжом, пад тым пахілым,
Дзедка, друг яго, ляжыць,
Нейк няждана сьмерць скасіла,
Хоць даўно яна, як цень,
Шла за ім, свой міг сачыла
І забрала ў ясны дзень
Пры ўсіх людзях, сярод поля,
Як ён трошкі прыкархнуў;
Згас стары дзядок бяз болю,
Раз ці два адно зяхнуў.
Перацёр век дзед бязродны,
Ціха жыў, цішэй сканаў,
І ніхто ў пясок халодны
Сьлёз гарачых не раняў
І ня плакаў над труною:
Быў пастух — цяпер няма,
І халоднай цішынёю
Агарнула яго цьма.
Толькі ў часе пахаваньня,
Як закопвалі труну,
Горкі смутак разьвітаньня
Ускалыхнуў душу адну.
— Дзедка, міленькі дзядуньня!
На што ты памёр? на што?
Хто-ж мяне цяпер прыгорне?
Хто мне слоўка скажа? хто? —
Прытуліўшысь пад крыжамі,
Ціха хлопчык галасіў;
Стук каменьчыкаў нажамі
Біў яго і дух гасіў...
Пахавалі і накрылі,
Бомкнуў звон разы са два,
А на лета на магіле
Быльнік вырасьце, трава.
І цяпер вастрэй Сымока
Адзіноту ў сэрцы чуў,
Нейкі смутак, бы плянёнка,
Моцна душу агарнуў.

(Далей будзе.)

# Гаспадарскі аддзел.

## Асушка і выраб балота.

(Канчатак)

**Выраб балота.** Першае, што трэба памятаць пры асушцы балота, гэта не чакаць адразу пасьля асушкі вялікіх ураджаяў траў. Часцей за ўсё ўраджаі балотных траў пасьля асушкі зьмяншаюцца. Гэта і зразумела, бо балотныя травы-асокі, пушыцы і інш. пачынаюць прападаць пасьля новых умоваў жыцьця і пройдзе некалькі гадоў, пакуль вецер на нясе на балота насеньне добрых траў, якія тут і пачнуць расьці. Лепш асушанае балота хутчэй вырабіць і ўгнаіць, бо толькі пры такім спосабу вырабу балота гаспадар зможа хутчэй вярнуць страты па асушцы балота.

Калі асушанае балота знаходзіцца недалёка ад сялібы, дык на ім можна зрабіць гарод з вялікім пасьпехам. Балотная зямля для гароднiны лічыцца добрай, асабліва для капусты. Але каб мець добры гарод, трэба балотную зямлю ўгнаіць.

Лепш на балотах рабіць сенажаць. Каб атрымаць з балота добрую сенажаць, трэба гады 3—4 сеяць на ім авёс, віка-аўсяную мешаніну, а таксама корань плады.

Гэтыя расьліны сеюць на балоце дзеля таго, каб добра распрацаваць дзёран, даць добра яму перагнісці і праветрыцца.

Зараз пасьля асушкі, калі балота абсохне так, што па ім можа хадзіць жывёла, пачынаюць яго вырабляць. Перш усяго трэба ачысьціць балота ад кустоў, зарасьнікаў, а таксама ад пнёў, калі яны ёсьць на балоце. Далей зьністажаюць купіны, засыпаюць ямы і наагул раўняюць балота, каб у далейшым ня было застою вады.

Сьпілаваныя на балоце дрэвы могуць быць скарыстаны на апал, а гальё, карэньні, кусты і інш. зьбіраюць на месцы ў кучы. Вясной, пакуль яшчэ балота зусім ня высахла, гэтыя кучы спальваюць, а попел раскідаюць па болоце, як угнаеньне.

Пасьля такога вырабу балота, пачынаюць грунтоўны выраб яго, які можна рабіць двумя спосабамі: 1) *адразу ўзорваюць балота на поўную глыбіню* і 2) *у першы год паверхоўна ўспульхіваюць зямлю.* На ўспульхненай баронамі зямлі вясной сеюць авёс або віка-аўсяную мешаніну. Ураджаі ў такім выпадку бываюць сярэднія і аплачваюць страты на выраб і пасеў.

Апроч таго, паверхня балота робіцца яшчэ раўнейшая, дзярніна становіцца пульхнай, што палягчае наступную асеньнюю ўзорву. Калі дзярніна бывае вельмі цьвердая і няма як бараной на драць пульхнага слою, што патрэбна для пасеву насеньня, дык такое балота ўзорваюць.

Пры ўзорваньні галоўную ўвагу трэба зьвяртаць на правільнае і поўнае пераварачваньне пласта дзёрнам уніз, бо толькі тады дзярніна добра перапрэе. Затым для першай узоркі балота трэба карыстацца плугам які мае вінтавы адвал (крыло). Плугі, якія драбяць скібы, тут ня годны, бо незакрытая ім дзярніна, потым зелянее і глушыць культурную расьліну. Лепі за ўсё пры вырабу балота ўжываць спэцыяльныя плугі. Гэтыя плугі маюць прыладу для бакавога запраганьня коней, затым плуг можна ў працы паставіць так, што запрэжаныя двое каней будуць ісьці па неўзаранай дзярніне поплеч з баразной.

Балота лепш узорваць у восень. Праляжаўшы ўсю зіму, дзярніна перагнівае і вясной лёгка барануецца. Вясной, як толькі балота прасохне, распрацоўваюць пласты раней удоўж, а потым у поперак рэжучымі баронамі (культыватарамі). Можна таксама скародзіць і цяжкімі жалезнымі баронамі, але яны вываpачваюць дзярніну і распыляюць зямлю. Закрываць угнаеньне і насеньне можна таксама культыватарамі. Пасьля пасеву карысна і нават патрэбна балота прыкачаць, ад чаго бывае добры ўраджай, бо ад пераворкі і баранаваньня, верхні пахатны слой балота робіцца вельмі пульхным і карэньні расьлін у ім дрэнна растуць. Апроч таго, верхні пульхны слой перастае цягнуць ваду з больш глыбокіх слаёў балота, ад чаго рунь пры адсутнасьці дажджу засыхае. Таксама верхні слой торфу дрэнна затрымоўвае дажджавую ваду, хутка прапушчае яе праз сябе. Разам з дажджавою вадою ў глыб балота праходзяць і тыя пажыўныя матэрыі, якія мы палажылі з угнаеньнем. Калі-ж верхні слой распрацаванага балота будзе прыкачаны, ды ў ім моцна будуь трымацца карэньні, ён лёгка будзе цягнуць ваду з ніжэйшых слаёў балота і затрымоўваць угнаеньне. Прыкачваць болота трэба асабліва у сухія гады і на больш тарфяністым балоце.

Калі няма ў гаспадарцы фабрычных вальцаў (каткоў), дык можна і самадзельнымі калодамі прыкачваць.

А. Б.

# Весткі з Краю.

## Цяжкая праца.

(Данюшава Вялейскага павету).

Цяжкая праца нашых беларускіх арганізацыяў, усе іх культурна-прасьветныя імкненьні паміж правоў знаходзяць на сваей дарозе шмат перашкод а то і зусім спыняюцца рожнымі нягоднымі цывілізаваных людзей спосабамі.

Але найцяжэй прыходзіцца гуртку Інстытуту ў Данюшаве, якому ад часу свайго істнаваньня, паміма вялікай энэргіі і стараньняў з боку сяброў удалося зладзіць толькі 2 (дзьве беларускія вечарыны спэктаклі і, то Старостава дазволу не прысылала, а пазваляла тэлефанічна, а рэшта стараньняў пашлі на марна, бо наша Староства далікатна адказывала па зусім беспадстаўным прычынам і дамагаючыся болей фарнальнасьцяў.

Пры гэтым насуваюцца мысьлі „ці ня ўткнула тут „Koła“ свае тры грошы, бо трэба ведаць, што гэта-ж „Koła“ рабіла байкот беларускай-вечарыне, ставячы у той самы дзень (на Юрія) хоць чужымі сіламі польскае прадстаўленьне, аднак відаць карысьць мела малую, бо хоць гуртог не атрымаў дазволу на спэктакль аднак зладзілі прыватныя танцы на які͏х было шмат акалічнай моладзі, за што „członki“ моцна гневаліся.

Да гэтай пары мы думаем, што толькі нашае Староства, каб падтрымаць „Koła“ і іхняю „polskość“ у Данюшаве ставе нам перашкоды, аж і Ашмянскае Староства зрабіла тое самае, толькі ў дэлікатнейшы спосаб. Наш гурток хацеў зладзіць на 12.VII. (на Пятра правасл. абраду) беларускую вечарыну ў в. Рыбаках Ашм. пав., дзеля таго адзін з сяброў адумыслава езьдзіў у Староства Ашм. пав. за дазволам.

У Старостве сказалі прыгатаўляцца і, што дазвол прыдзе поштай. Але вышла іначай, усё была прыгатавана, ведама не звалымі стратамі, а ад Староства жаднага адказу ня было, трэба было тэлефанаваць, на што адказалі, што „wysłane“. Няведама калі, бо як ня было на тэрмін пазваленьня то ўсе мусілі разыйсьціся; і гэтак вечарына не адбылася. Як мы пасьля даведаліся прышло яно ў вечары за некалкі гадзін пасьля азначанага тэрміну, а як ня было каму аддаць, то П. П. П. (P. P. P.) адаслаў назад у Староства.

Усё гэта падаю да ведама, каб знала ўсе паважанае грамадзянства, як цяжка нам працаваць, спатыкаючы з усіх бакоў перашкоды; але мы не апусьцім рук і ня будзем зражацца неўдачамі і хоць з трудамі, але дайдзем да пажаданай мэты.

Мы моцна верым, што прыйдзе той час, калі над нашай гаротнай старонкай засьвеце сонейка справядлівасьці і лепшай долі.

Славянін.

## Да нашай моладзі.

(Лідчына).

Чытаючы нашу родную часопісь: „Сялянскую Ніву“, даведваюся, што па ўсіх кутках Заходняе Беларусі беларуская моладзь прасыпаецца ад векавечнага сну і энэргічна прыступае да культурна-асьветнае працы. Даведваюся, што па іншых паветах беларуская моладзь гуртуючыся ладзіць: беларускія вечарыны-спэктаклі, публічныя лекцыі, арганізуюць гаспадарчыя і культурна-асьветныя установы, закладаюць гурткі: Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, народныя дамы, бібліатэкі і г. п.

У нашым павеце беларуская моладзь у гэтай галіне працы зусім адстала, дзякуючы таму, што сярод нас ёсьць інтэлігэнтныя беларусы, якія чураюцца свае роднае мовы і з'яўляюцца рэнэгатамі нашага народу. Але за тое не адстаець ад сьмярдзючай гарэліцы, мала таго, што хлапцы ўжываюць, але нават і дзяўчаты лопаюць. Адным словам атручваюць сваю душу і гэтым страшэнна сябе губяць, а пасьля наракаюць, што марная доля і ня бачуць сьветлага жыцьця.

Вось канчаецца палявая праца, прыбліжаецца васеньняя пара — кароткія, дажджлівыя студзённыя дні. Ізноў наша моладзь пасабіраецца групамі па хатах і пачнець вечарамі гуляць у карты ды гарэліцу піць, а пасьля ня ведама за што, адзін другому галовы разьбіваць, дый цягацца па судох, растрачываючы грошы на адвакатаў. Вось, як у нас робіцца, а ўсё гэта дзякуючы нашай цемры.

Дык, дарагія браты: кіньце піць гэтую праклятую гарэліцу, якая з'яўляецца опіюм для вас і атручвае вашу душу. Ведайце добра, што вы п'ючы яе, губіце сябе маральна і выстаўляеце на пасьмешышча перад вашымі непрыяцелямі. Гэтым вы падтрымліваеце інтарэсы капіталістых-фабрыкантаў, якія з'яўляюцца эксплёататарамі, коштам вашага спажываньня алькаголю. Гэтыя эксплёататары пакуль-што, яшчэ карыстаюцца з вашае цемры і вашым коштам здабываюць сабе раскошнае жыцьце, а вы коштам ужываньня гарэліцы, здабываеце сабе галіту.

Асабліва зьвяртаю ўвагу на маладое пакаленьне, якое лёгка даецца адвярнуць ад усяго шкадлівага.

Затрымайцеся і абдумайце, колькі вы грошай расходуеце на гэту атруту-гарэлку! За гэтыя грошы можна зрабіць шмат чаго карыстнага для сябе і вашага народу. І датуль будзеце няшчасныя, пакуль будзеце піць праклятую гарэлку, і будзеце бедны матэр'яльна і духова, гэткімі, якімі і цяпер ёсьць.

Каб больш ня сьмяяліся з вас ворагі, і не карысталі з вашае цемры, каб не праводзіць марна час — арганізуйце беларускую культурна-асьветную пляцоўку. Больш з вас сьвядомая моладзь вярбуйце сяброў ды закладайце гурткі Беларускага Інст. Гасп. і Культуры, ладзьце вечарыны-спэктаклі, арганізуйце бібліатэкі, народныя дамы, выпісывайце беларускую газэту, ад якой вы шмат чаго новага і цікавага даведаецеся, што робіцца на сьвеце і ў нашым краі.

Памятайце добра, што працуючы на беларускай ніве, гэтым вы здабудзеце сабе сьветлую будучыню. Цяперака, ўсё залежыць ад вас і, калі вы самі сабе не паможаце, дык ніхто вам не паможа. І тады толькі вы зможаце палепшыць сваё становішча, сваё жыцьцё, як сацыяльна, так і нацыянальна.

Малады Беларус.

# НАШАЯ ПОШТА.

**Ул. Гмыру:** Верш сярэдні. Пішыце больш, магчыма будуць зусім добрыя. Аб Вас помнім добра.

**Ю. Сергіевічу:** Вершы атрымалі. Пераглядзім. Калі падайдуць, зьмесьцім.

**Гуртку Т-ва Бел. школы ў Юхнавічах, Клімуку С., Пракапуку Гр., Рудку, Міхалковічу, Кукелю К.,** — пробны нумар паслалі **Гутку Інстытуту ў** Горадзі, **Рачынскаму** В. — газету пасылаем.

**Дасталі ад:**

**Трыпуцькі П. і Кунавіча** — па 2 зл.



*Сяляне! Запісвайцеся у Беларускі Сялянскі Саюз!*

Рэдактар і выдавец А. Герасімчук.
Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.